© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 31 (130) 18 - 24 жніўня 1995 г. Кошт 600 рублёў

ІНКВІЗІТАРСКАЯ "БУЛЛА" ПРЭЗІДЭНТА - ст. 2.

МАЛПА ГЭТА ГУЧЫЦЬ "ГОРДО" - ст. 3.

ЮРКА РАПЕЦКІ: "ВАЖНА МЕЦЬ БІБЛІЮ НА РОДНАЙ МОВЕ" - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

*Нацыянальнай зборнай Беларусі па лёгкай атлетыцы*

## ШАНОЎНЫЯ СПАДАРЫ І СПАДАРЫНІ!

Віншуем Вас з бліскучым выступленьнем на чэмпіянаце Сьвету па лёгкай атлетыцы ў Гётэборгу! Два Вашыя залатыя, тры срэбныя медалі і другое агульнакамандпае месца па якасьці медалёў сталі галоўнай сэнсацыяй чэмпіянату! Выказваем Вам шчырую падзяку за тое, што нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы ў падрыхтоўчы перыяд, Вы праявілі мужнасьць, самаахвярнасьць і паказалі высокія стартавыя вынікі, годна падтрымаўшы аўтарытэт беларускага спорту.

Зычым Вам моцнага здароўя, асабістага шчасьця, удалага выступленьня на Алімпійскіх гульнях у Атланьце і іншых спартыўных спаборніцтвах.

Жыве Беларусь!

Ад імя Управы Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

**Зянон ПАЗЬНЯК**

**Перапрашаем нашых чытачоў за тое, што ў двух папярэдніх нумарах «ПАГОНІ» быў недакладна пададзены кошт падпіскі. Нагадваем, што падпіска заканчваецца 31 жніўня.**

## САМЫЯ ХУТКІЯ, САМЫЯ ДУЖЫЯ, САМЫЯ СПРЫТНЫЯ!

**Сьмела ўжываю ўсе гэтыя эпітэты ў дачыненьні да беларускіх лёгкаатлетаў, якія афіцыйна занялі другое месца ў камандным заліку на чэмпіянаце сьвету ў Гётэборгу. Дзесяцімільённы народ здолеў выгадаваць атлетаў, якія заткнулі за пас шматмільённыя Кітай, Германію, Расею, Францыю, Ангельшчыну. А калі падзяліць колькасьць медалёў на колькасьць насельніцтва, дык мы ўвогуле - лепшыя ў сьвеце.**



А зараз давайце паглядзім, як дзяржава шануе сваіх герояў. Эдуард Хямяляйнен, зорка сусьветнага спорту, у інтэрв'ю гаворыць, што ў Беларусі яго многія ня ведаюць!!! Ды ў любой дзяржаве, спарцмэн, заваяваўшы срэбра чэмпіянату сьвету, умомант стаў бы нацыянальным героем, чый твар не сыходзіў бы з тэлеэкранаў ды старонак газет. Стэфку Кастадзінаву ў аэрапорце сустракаў прэзідэнт Балгарыі. А ў нас? Узгадваецца факт, што зборную Беларусі па хакею, перамогшую ў чэмпіянаце сьвету групы «С», павіншаваў усяго адзін чалавек - лідар БНФ Зянон Пазьняк. Атрымліваецца, што дзяржаўным дзеячам зусім не патрэбныя спарцмэны, якія здабываюць гонар і славу для краіны. Не патрэбныя, як і сама гэтая краіна. Была б «кармушка»...

Ці паспрыяе посьпех нашых лёгкаатлетаў якім-небудзь чынам на тое, што беларусы ўрэшце рэшт пачнуць паважаць сябе? На гэтую і іншыя тэмы мы гутарым з дзяржтрэнерам па лёгкай атлетыцы сп.Вячаславам Крывецкім.

- Дзякуючы нашым спарцмэнам мільярды людзей, падкрэсьлю - мільярды, даведаліся пра Беларусь, аўтарытэт якой вырас на вачах. Нас пачалі паважаць, з нашай сілай - лічыцца. Дзякуючы посьпеху ў Гётэборгу, значна павялічыцца квота для нашай краіны для ўдзелу ў наступных чэмпіянатах сьвету і кантыненту, а значыць будуць новыя перамогі.

**- Пра срэбраныя медалі Уладзіміра Дуброўшчыка, Ігара Астапковіча і Эдуарда Хямяляйнена нашыя чытачы, безумоўна, ведаюць. А як выступілі ў Швецыі астатнія гарадзенцы?**

- Напачатку хацеў бы сказаць, што сёлетнія срэбныя медалісты здольны дадаць і, спадзяюся, што ў алімпійскай Атланьце іх «срэбра» ператворыцца ў «золата». Ёсьць добрыя персьпектывы ў Дзьмітрыя Ганчарука, які ніяк ня можа пакуль адыйсьці ад траўмы. Яму зараз 25 год - для штурхальніка ядра гэта малады ўзрост і ў яго ўсё наперадзе. На чэмпіянаце ў Гётэборгу ён стаў восьмым. Высокія паказчыкі ў кваліфікацыйных стартах мелі Таццяна Храмава (скачкі ўвышыню), Ірына Ятчанка (дыск), але ў асноўных стартах яны выступілі менш удала. Так, Храмава, калі б паўтарыла свой асабісты рэкорд 1м 99 см, устаноўлены на чэмпіянаце краіны, была б другой-трэцяй, а так стала толькі дванаццатай. Дзевятае месца ў Ірыны Ятчанкі. Ня здолела прабіцца ў фінал бегу на 200 м Натальля Сафроннікава з Ваўкавыску. Але, падкрэсьлю, што ўсе гэтыя спарцмэны маюць добрыя персьпектывы.

**- Чэмпіянат сьвету фактычна закончыў лёгкаатлетычны сезон. Як складваўся гэты год для гарадзенскіх лёгкаатлетаў?**

- На чэмпіянаце Беларусі ўпершыню Гарадзеншчына склала канкурэнцыю Менску, саступіўшы першынство ў апошні дзень. Такая ж сітуацыя ў юнакоў. Таму ня дзіўна, што на маладзёжным чэмпіянаце Эўропы ў Вугоршчыне з 14 беларускіх атлетаў 7 прадстаўлялі нашую вобласьць. Дарэчы, на іх рахунку тры з чатырох заваяваных нашай зборнай медалёў («срэбра» Яніны Карольчык (ядро), Яніны Цандэр (дыск), Міколы Аўласевіча (дыск)).

Як бачыце, сезон склаўся даволі ўдала...

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Эдуард ХЯМЯЛЯЙНЕН.**

**Вось яна -слава Беларусі:**

6 ЖНІЎНЯ
Хадзьба 20 км (М)
**Яўген Місюля - 3-е месца**
Кіданьне молата (М)
**Ігар Астапковіч - 2-е месца**
7 ЖНІЎНЯ
Сямібор'е (М)
**Эдуард Хямяляйнен - 2-е месца**
8 ЖНІЎНЯ
Кіданьне кап'я (Ж)
**Натальля Шыкаленка - 1-е месца**
11 ЖНІЎНЯ
Кіданьне дыска (М)
**Уладзімір Дуброўшчык - 2-е месца**
**Васіль Капцюх - 3-е месца**
12 ЖНІЎНЯ
Кіданьне дыска (Ж)
**Эліна Зьверава - 1-е месца**

Усяго на чэмпіянаце сьвету ў Гётэборгу выступалі 2700 атлетаў з 200 краін. Узнагароды разыгрываліся ў 44 дысцыплінах. Іх уладальнікамі сталі спартсмены з 43 краін.

**Выніковая табліца чэмпіяната сьвету па л/а**

| Краіна | Золата | Срэбра | Бронза | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| 1.ЗША | 12 | 2 | 5 | 19 |
| **2.Беларусь** | **2** | **3** | **2** | **7** |
| 3.Германія... | 2 | 2 | 2 | 6 |
| 11.Расея... | 1 | 4 | 7 | 12 |
| 37.Польшча... | 0 | 0 | 2 | 2 |

ф.СП-1

Міністэрства сувязі Беларусі
"Белсаюздрук"

АБАНЭМЭНТ на газэту 63124

ПАГОНЯ

Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | X | X | X |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | Месца | літар

на газэту 63124

ПАГОНЯ

Кошт: падпіскі 15000 руб.; пера-адрасоўкі руб.

Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | X | X | X |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

## НАБОР З ПРАЦЯГАМ

**У той час, калі працэс паступленьня ў іншыя ВНУ краіны завершаны, кіраўніцтва Гарадзенскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута вымушана было аб'явіць дадатковы набор на аддзяленьне сястрынскай справы (вышэйшая адукацыя).**

Заявы прымаюцца да 18 жніўня, а з 21 жніўня пачнуцца экзамены. Справа ў тым, што паступаць на гэтае аддзяленьне могуць толькі тыя, каго накіравалі абласныя ўпраўленьні аховы здароўя. І ці то было мала жадаючых паступіць, ці то ня ўсім выдаваліся накіраваньні (акрамя таго, ня ўсе абітурыенты здолелі здаць пасьпяхова ўступныя экзамены), першы курс не ўдалося адразу ўкамплектаваць.

Працягваецца працэс дазалічэньня на медыка-псіхалагічны факультэт. На яго прымаюцца накіраваныя ўпраўленьнямі аховы здароўя жыхары Гомельшчыны і Магілёўшчыны, якія здалі экзамены ў медыцынскія інстытуты краіны, але не прайшлі па конкурсу. Дадаткова трэба прыняць на гэты факультэт каля 30 чалавек.

## ПАЗВАНІ МНЕ, ПАЗВАНІ... КАЛІ ХОПІЦЬ ГРОШАЙ

**З 11 жніўня кожны гарадзенец-уладальнік тэлефона, нумар якога пачынаецца на лічбу «6» павінен добра падумаць, перш чым падняць трубку.**

З гэтага дня за кожную хвіліну размовы па мясцовай тэлефоннай сетцы ён павінен будзе заплаціць 30 рублёў. Ільгот па аплаце гэтай паслугі сувязістаў непрадугледжана ні для каго. Нават для тых, хто ў экстрэным выпадку набярэ нумар міліцыі альбо «хуткай дапамогі».

Да таго ж, захоўваецца абанентная плата за карыстаньне тэлефонам. Яна на сёньняшні дзень для ўладальнікаў індывідуальных тэлефонаў складае 10 тысяч рублёў, спараных - 8 тысяч, і арганізацый - 19,5 тысяч рублёў.

Як паведамілі ў абласным вытворчатэхнічным упраўленьні сувязі і інфарматыкі, да канца бягучага года пахвілінная аплата будзе ўведзена для ўсіх уладальнікаў тэлефонаў.

**А.ДУК**

## З АВІЯБАЗЫ СКРАДЗЕНЫ СНАРАДЫ

**Як паведамілі ў Мінабароны, вайсковец авіяцыйнай базы, якая дыслакуецца ў Лідзе, знайшоў у лясным масіве непадалёк базы 24 ракетныя снарады.**

Яны, як мяркуецца, былі скрадзены асобамі, якія маюць непасрэднае дачыненьне да аховы і рэгламентнага абслугоўваньня сродкаў авіяцыйнага паражэньня.

Гарадзенскай міжгарнізоннай пракуратурай узбуджана крымінальная справа. Да расьсьледаваньня далучыліся абласныя падразьдзяленьні КДБ і МУС.

**СІМ**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

